Мясціны запаведныя

# "Блакітныя азёры"

***Кожны, хто хоць аднойчы пабываў на Мядзельшчыне, надоўга запамінае заспакойваючы шэпт багатых на грыбы і ягады векавых бароў, зачароўваючы блакіт шматлікіх азёр. Жамчужына краю— казачнай прыгажосці Нарач. Не выпадкова ж на яе беразе густа размясціліся санаторыі, дамы адпачынку, турбазы, піянерскія лагеры. І ўсім прыязджаючым сюды гаючая прырода шчодра дорыць здароўе, сілы, бадзёрасць.***

На Мядзельшчыне шмат і новых, можа толькі не такіх кідкіх, аднак не менш таямнічых і па-свойму непаўторных куточкаў. Адзін з іх— гідралагічна-ландшафтны заказнік рэспубліканскага значэння "Блакітныя азёры". Створаны ён больш двух дзесяцігоддзяў таму для аховы ўнікальнага узгорыста-азёрнага прыроднага комплексу і знаходзіцца на самым ускрайку раёна, на граніцы з Пастаўшчынай і Астравеччынай.

Плошча заказніка адносна невялікая— паўтары тысячы гектараў. Самае вялікае і глыбокае ў гэтай групе азёр— Болдук. Вада ў ім празрыстая і халодная, а максімальная глыбіня даходзіць амаль да сарака метраў.

Ды і наогул, кожнае з тутэйшых азёр мае адметную асаблівасць. Так, Глубля адзначаецца зялёным колерам вады, Ячмянёк— саланаватай, бо ў ёй шмат мінеральных рэчываў. Назвы азёр Акунёк, Карасік, Глухое гавораць самі за сябе.

Па тэрыторыі працякае звілістая Страча, а ўсе азёры злучаны паміж сабою ручаямі. Улетку тут вабяць позірк нямала рэдкіх раслін, якія занесены ў Чырвоную Кнігу. У прыватнасці, цюльпан лясны, меч-трава, венерын чаравічак... З дрэў найбольш рапаўсюджана сасна, таксама сустракаюцца елка, бяроза.

Гэтымі зімовымі днямі ў запаведным куточку, не так і часта сустрэнеш чалавека. Сюды забаронены ўезд транспартных сродкаў. У заказніку нічога не будуюць, не займаюцца меліярацыяй, ніхто не арэ і не сее, а значыць не ўносіць мінеральных угнаенняў. Няма на яго тэрыторыі і населеных пунктаў. Апрача ўсяго, месца адносна цяжкадаступнае. Стромкія спускі лясных дарог чаргуюцца з зацяжнымі пад'ёмамі, а ў нізінах вясной і восенню нямала гразкіх участкаў. Таму сюды нават пры ўсім жаданні не заўсёды "сунешся" на "Жыгулях" ці іншамарцы.

Належны парадак падтрымлівае ў заказніку Мядзельскі лясгас, а калі больш канкрэтна, то старшы майстар лесу Аляксандр Караленя. Ёсць у яго і памочнікі— трое леснікоў. Спраў ім хапае і летам, і зімою. На добраўпарадкаванне "Блакітных азёр" штогод выдзяляюцца грошы. Сёлета, напрыклад, пяцьдзесят мільёнаў рублёў.

—На маю думку,— сказаў у гутарцы начальнік раённай інспекцыі па экалогіі Святаслаў Хіло,— у цэлым агульнымі намаганнямі ў заказніку ўдаецца падтрымліваць устаноўлены рэжым.

Самая неспакойная тут пара года— лета. У заказніку пракладзены захапляючы турысцкі маршрут, групы на яго фарміруюцца, як правіла, у турысцка-экскурсійным комплексе "Нарач". Людзі не толькі любуюцца маляўнічымі краявідамі, але могуць і адпачыць па ходу ў спецыяльна адведзеных месцах, абсталяваных лясной мэбляй. Супраць такіх аматараў прыроды ў заказніку ніхто нічога не мае супраць.

І зусім іншая справа— "дзікія турысты". Яны едуць у заказнік на аўтамашынах, разбіваюць палаткі , што таксама катэгарычна забараняецца, нішчаць дрэвы, расліннасць, засмечваюць "Блакітныя азёры". На такіх скаладаюць пратаколы, іх штрафуюць. Здараюцца і канфлікты. Быў нават выпадак, калі парушальнікі напалі на работніка лясной аховы, траўміравалі яго.

—А я асабіста,—дзеліцца патаемным Аляксандр Каваленя,— больш за ўсё люблю быць у заказніку зімою. Якая тут прыгажосць, якая чысціня. Шкада толькі, што людзі не маюць у нас належнага экалагічнага выхавання, далёка не ўсе даражаць прыродным багаццем. Як гаворыцца, што маем— не захоўваем, а як згубім— галосім.

Безумоўна, да парушальнікаў парадку неабходна прымаць строгія меры ўздзеяння. Але відавочна і другое: са стварэннем Нарачанскага нацыянальнага парку колькасць жадаючых пабываць на "Блакітных азёрах" узрасце. І тут нельга не пагадзіцца са спецыялістам раённай інспекцыі па экалогіі Віктарам Пратасевічам наконт таго, што трэба не толькі забараняць, але і ствараць людзям умовы, каб яны мелі магчымасць без лішніх клопатаў наведаць заказнік, палюбавацца "некранутай" цывілізацыяй прыродай.

Думаецца, ужо цяпер не лішне паклапаціцца наконт абсталявання ля граніцы заказніка платнай ахоўваемай аўтамабільнай стаянкі, аб адкрыцці ў сезон гандлёвага пункта, дзе турысты змаглі б набываць прахладжальныя напіткі, прадукты харчавання.

Пры сур'ёзным падыходзе, забеспячэнні людзей добрым сэрвісным абслугоўваннем, упарадкаванні патоку ўсіх наведвальнікаў, "Блакітныя азёры" будуць не толькі захаваны, але і прынясуць у бюджэт значны прыбытак.

*Павел ЖУКАЎ.*

## Паляванне на ваўкоў

***ВАЛОЖЫН. Здаўна ваўкоў называюць санітарамі лесу. Аднак, калі шэрых драпежнікаў становіцца занадта, яны ўяўляюць небяспеку для лясных насельнікаў. Вось і ў лясах Валожыншчыны— іх перанасяленне. Таму адстрэл ваўкоў з'яўляецца мэтанакіраванай барацьбой з імі.***

З пачатку года толькі сіламі работнікаў лясгаса на тэрыторыі Налібоцкай пушчы знішчаны 15 драпежнікаў, яшчэ 4— на тэрыторыі Валожынскай паляўнічай гаспадаркі. 2 ваўкі ёсць нават сярод трафеяў паляўнічых з Германіі і Аўстрыі, што аблюбавалі лясныя абшары нашага раёна.

...Цэлы тыдзень у апошнія дні снежня працягвалася паляванне на ваўкоў у аблозе на тэрыторыі Пяршайскага лясніцтва. У зону, агароджаную чырвонымі флажкамі, трапілі ажно чацвёра мацёрых звяроў. У першы дзень засады двум з іх удалося перахітрыць людзей і ўцячы, аднаго, праўда, моцна параніў ляснічы Румскага лясніцтва Раман Круцько. Затое фініш палявання быў удалым. На "свае рахункі" двух драпежнікаў запісалі памочнік ляснічага Івянецкага лясніцтва Юрый Мазура і спецыяліст-біёлаг МП "Біятоп" Уладзімір Бычкоў.

Раней здабыча ваўкоў стымулявалася дзяржавай. За кожнага дарослага драпежніка паляўнічы атрымліваў 100 рублёў, за ваўчыху нават больш, што па тым часе было адчувальным. Цяпер таксама было зацверджана палажэнне аб конкурсе па барацьбе з ваўкамі,. якое падпісалі два міністры— лясной гаспадаркі і прыродных рэсурсаў. За дарослага ваўка павінна выплачвацца 7 мінімальных зарплат, за ваўчыху— 10. Дакумент ёсць, а грошай няма. Ці надоўга хопіць у паляўнічых запалу, каб працаваць на голым энтузіязме.

*Васіль ШАКУН*

## Падманваем... па зменнаму графіку

***Вольгі, Маргарыты Пятроўны, Тонькі— прадаўцы рознічнага гандлю— скардзяцца на пакупнікоў за іх грубасць: толькі пяць працэнтаў вітаюцца, ветліва пытаюцца, што колькі каштуе і не загадваюць, а просяць абслужыць. І калі пакупнікоў за вочы называюць занудамі, тыя, у сваю чаргу, прадаўцоў іначай, як спекулянтамі не клічуць, бо ёсць падставы.***

–Падманваем,– шчыра гаворыць Антаніна, прадавец розніцы са Смаргоні. Працуем па зменнаму графіку: чатыры дні з дзевяці раніцы да пяці вечара, быццам салдат на пасту адстаю– два дні адпачываю. Атрымліваем два працэнты ад выручкі– гэта прыблізна ад 500 тысяч да мільёна у залежнасці, які тавар рэалізуем. На яйках, маянэзе, маргарыне, грэчцы можна зарабіць і больш. Калі чую, што хтосьці з калег працуе без падману, смяюся, бо, па- першае, сядзець ля вады і не напіцца– быць такога не можа, а па-другое, бываюць выпадкі, калі сам памыляешся і гандлюеш стратна: таму і аблічваем пакупнікоў у асноўным ад 500 рублёў да 2 тысяч за пакупку. Можна самастойна і цану ўзняць, але вялікая рызыка. Своё начальства выганіць, ды так, што ўжо нідзе не працаўладкуешся. Такое ў працоўнай кніжцы напішуць!..

Вось так і шчыруем па-Леніну: "Лепш менш, ды лепш", нягледзячы на шматлікія праблемы. Самая галоўная– карыстанне прыбіральняй. У магазіны нас не пускаюць– патрабуюць, каб фірма плаціла за карыстанне. Восем гадзін бяззменна на свежым паветры, без туалета– ніхто не вытрымае такога здзеку. Таму, калі мяне дэсантуюць на аб'ект, наперад дамаўляюся са знаёмымі, каб наведалі мяне і падмянілі на час.

Дрэнна, што маленькі водпуск– два тыдні, не заўсёды забяспечваюць спецвопраткай. А ў астатнім, прыгожая маркіза... Дык што будзеце купляць?

***У якасці пакупніка і субяседніка быў Васіль САВІЦКІ.***



## БЯСПЛАТНЫЯ ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

### ПРАДАМ

◆Недабудаваны катэдж у рысе Маладзечна. Т. у Мал. 73297 (з 10 да 20-00, акрамя нядзелі).

◆2-пак. прыват. кв-ру ў Ялце (22,9 кв.м, 2/3 пав. мураванага дома ў цэнтры, да мора 200 м). Т. у Мін. 310633.

◆Электразвар. апарат 220 В; новы рухавік да мотаролера "Вятка". Т. у Маладз. 32510.

◆Ванну чугун. 150 см у добр. ст., шубку дзяв. (п. 34), паўшубак (пам. 44), усё б/у. Т. у Мал. 62704.

◆Акардэон " Будштад" поўны, тэрмінова, нядорага. Т . у Мал. 67078.

◆1-пак. кв-ру (40/19,8 кв. м) з выгодамі ў Лагойскім раёне, в. Малыя Нястанавічы. Т. у Ашм. 22444.

◆А/м ВАЗ-2105 1981 г. в. Адрас: Маладз., вул. Вароўскага, 27.

◆Стэрэацэнтр (узмацняльнік, эквалайзер, АС-35), б/у, у выд. ст., тэрмінова. Т. у Мал. 29268 (Андрэй, пасля 19-00).

◆Каляр. тэл. "Рэкорд-726" на з/ч, цана дагаворн. Маладз., вул. Маладзёжная, 24-7.

◆Запчасткі да а/м "Форд- Арыон" 1990 г. в., дызель, 5-ст. КПП. Т. у Мал. 62832, 54983.

◆Дачу 6х8, два пав. на беразе Віліі, 9 км ад Вілейкі (гаспаб., калодзеж, 0,12 га). Т. у Віл. 58880.

◆Магнітафон- прыстаўку "Маяк-249S-1", нядорага. Т. у Мал. 52147.

◆А/м "Масквіч-412" 82 г. в. за $700, гандаль магчымы. Т. у Мядз. 55906 (пасля 19-00).

◆Зруб 8х8 з участкам, паркет (чырвонае дрэва). Т. у Віл. 55364 (у раб. час), 58625 (пасля 18-00).

◆А/м ВАЗ-2107 у выд. стане, колер вішні. Т. у Віл. 58625 (пасля 18-00).

◆Гараж у ГК №14, аконныя блокі з рамамі 105х145-5 шт., 150х150-2 шт; ЗАЗ на запчсткі. Т. у Мал. 67078.

◆Тэлевізар "Гарызонт 51-ТЦ-449Д" б/у, нядорага, у выд. стане. Адрас: Маладз., вул. Б. Хмяльніцкага, 1-13.

◆2-пак. прыват. кв-ру ў Вілейцы (30 кв. м. пакоі раздзельныя, 1-ы пав.) Т. у Віл. 58880.

◆Ложак дзіцячы. Т. у Мал. 60285.

◆А/м "Фольксваген- Дэрбі" 80 г. в. за $900 і відэаплэер, які запісвае, "Супра" за $150. Т. у Мал. 53941 (раб.), 74845 (дам.).

◆2-пак. кв-ру ў г. п. Плешчаніцы Лагойскага р-на (47,5 кв. м, ёсць хлеў, гараж, побач рака, лес) або мяняю на а/м. Т. у Віл. 75388 (пасля 17-00).

◆4-пак. кв-ру з выгодамі ў в. Уселюб Навагрудскага р-на (2 пав., 2 балк., тэл., сад, агарод, гараж, хлеў, падвал). Т. у Навагрудку 74752

◆Гараж у ГК №19, нядорага, ёсць падвал. Т. у Мал. 73104.

◆Машыну пральную м/г "Мара", халадзільнік м/г "Марозка". Адрас: Маладзечна, вул. Я. Купалы, 122-30.

◆Тульскі баян 55х100 або мяняю на акардэон. Т. у Мал. 50212 (пасля 18-00).

◆1-пак. прыв. кв-ру з тэлефонам у Ашмянах або мяняю на роўназн. у Маладз. Т. у Мал. 32453.

◆Рухавік да а/м "Масквіч-412" б/у. Т. у Віл. 53744 (пасля 18-00).

◆Станок дрэваапрацоўчы шматаперацыйны прамысловы. Т. у Мінску 352298.

◆Матацыкл "Мінск" новы, ручную вязальную машыну "Алеся". Т. у Мал. 76448.

### КУПЛЮ

◆Флейту. Т. у Мал. 68068.

◆Рухавік да інваліднай каляскі. Т. у Мал. 32510.

### МЯНЯЮ

◆3-пак. кв-ру ў Новалукомлі Віцебскай вобл. на кв-ру або дом у Мінску, Маладз., Вілейцы, Смаргоні або раёнах. Т. у Мал. 67248.

◆Каап. 2 пак. кв-ру ў Маладз. на 1- і 2-пак. (Можна ў іншым горадзе). Т. у Мал. 60285.

◆2- і 1-пак. кв-ры ў Паставах на 2- і 1-пак. або 3-пак. кв-ры ў Смаргоні, Маладз. Т. у Смарг. 22749.

◆3-пак. кв-ру палепш. планір. (41 кв. м.) на 1-пак. у Мінску і 2-пак. у Маладз. або 2-пк. у Мінску і 1-пак. у Маладз. па дамоўленасці. Т. у Мал. 62334.

◆3- пак. кв-ру ў Маладз. у цэнтры (3-ці пав.) на 2-пак. Т. у Маладз. 52989.

◆Недабудаваны дом у Мядзеле на добраўпарадкав. кв-ру. Магчымы варыянты. Т. у Мядзеле 51802.

### ЗНАЁМСТВЫ

◆Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з мужчынам да 36 гадоў, без жыллёвых праблем, гараджанінам, можна з дзіцём. Аб сабе: 31/164, медык, сыну 6 г., матэрыяльна і жыллём забяспечаная. Падрабязнасці пры перапісцы. Адрас: Смаргонь, г/п, да з/п улад. пашп. V-ДР №666311.

### ПЛАТНЫЯ ( ДЗЕЛАВЫЯ ) АБ'ЯВЫ

Даведкі па тэл 01773-53841

◆Здам напракат імпартныя вясельныя ўбранні. Т. у Мал. 65409.

◆Рэалізуем пятлю мэблевую двухстворчатую. Т. у Барысаве 50189.

◆Эмаліроўка ваннаў. Імпартныя матэрыялы. Розныя колеры, гарантыя. Выязджаем па рэгіёну. Т. у Маладз. 60278.

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна**
Маладзечна— 01773, Вілейка— 01771, Смаргонь— 01592, Ашмяны— 01593, Валожын— 01772, Мядзел— 01797, Астравец— 01591, Мінск— 0172

**КУПОН для бясплатных прыватных аб'яў** (1)

Напішыце аб'яву друкаванымі разборлівымі літарамі і дашліце ў канверце на адрас: 222310, Маладзечна-7, а/с 32.

Тэкст аб'явы :

Прозвішча, імя і адрас (звесткі не публікуюцца):

РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА N1(37) 5.01.96—11.01.96
Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Вячаслаў ТАБУЛІН, ЗАТ «Інтэрмаркет», фірма «Фаварыт». Пасведчанне N1091. Індэкс 63212.
Выдавец: рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты».
Рэдактар: Аляксандр МАНЦЭВІЧ
Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж 8150 экз. Цана 1000 рублёў.

ПАДПІСНАЯ цана на квартал—12000 р., на месяц— 4000 р. Распаўсюджваецца па тэрыторыі Беларусі.
АДРАС ДЛЯ ПІСЬМАЎ: 222310, Маладзечна-7, а/с 32
АДРАС ПУНКТА ПРЫЁМУ АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ: Маладзечна, вул. Будаўнікоў, 1.
ЮРЫДЫЧНЫ АДРАС РЭДАКЦЫІ: Вілейка, вул. Чапаева, 60, 57
ТЭЛ./ФАКС/МАДЭМ у Маладзечне 53841.

РЭКЛАМА. Базавая стаўка 10000 руб./1 кв. см.; 1-я старонка— 15000 руб./1кв.см.
Разліковы рахунак N 3012202890044 у філіяле АКБ «ПОИСК» у Маладзечне, код 115, атрымальнік рэдакцыя «РГ»
Аддрукавана з арыгінал-макета ў друкарні «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11
Заказ N1735 Падпісана ў друк у 12.00 4.01.96.